ЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 332
Год выд. XXXV

Сьнежань
1986 г.

## МІХАЛ КУКАБАКА
### (На 50-я ўгодкі жыцьця)

Ад Рэдакцыі: *3-га сьнежня сёлета споўнілася 50 год жыцьця беларускаму іншадумцу, шматгадоваму вязьню сумленьня ў Савецкім Саюзе, Міхалу Кукабаку. Выказваючы яму нашыя найшчырэйшыя пажаданьні вытрываласьці й здроўя, зьмяшчаем ніжэй матар'ял пра Кукабаку сьветлай памяці Аркадзя Рутмана, аднаго з абаронцаў Міхала Кукабакі на старонках газэты «Беларус» ды ў перадачах радыястанцыі «Свабода».*

Міхал Ігнатавіч Кукабака нарадзіўся ў 1936 г. ў Бабруйску. Ягоны бацька загінуў у 1939 г. на савецка-фінскай вайне. Маці ў часе вайны зь Немцамі пайшла ў партызанскі атрад, была цяжка параненая і ў 1946 г. памерла ў інвалідным доме. Міхась на пачатку вайны жыў у бабкі. Але ў 1944 г. яна вымушаная была аддаць унука ў дзіцячы дом. У 1953 г. Кукабака скончыў рамеснае вучылішча, пасьля чаго працаваў электрыкам і токарам, служыў у арміі, скончыў сярэднюю школу.

30 верасьня 1968 г., знаходзячыся ў Кіеве, Кукабака прыйшоў у чэхаславацкае консульства, каб выказаць свае спачуваньне, а таксама абурэньне савецкай акупацыяй Чэхаславаччыны. Ён ня ўступаў у прафсаюз, адмаўляўся браць удзел у выбарах. Так пачаўся ў Кукабакі канфлікт з савецкімі ўладамі, і органы бясьпекі пачалі зьбіраць на яго «матар'ял».

12 красавіка 1970 г. Кукабаку арыштавалі ў горадзе Аляксандраве, дзе ён жыў і працаваў, ды абвінавацілі паводля артыкулу 190-І КК РСФСР. Кукабаку інкрымінавалі ягоны адкрыты ліст да ангельскага пісьменьніка Мантэгю (у абарону былога савецкага грамадзяніна, пісьменьніка-эміграната Анатоля Кузьняцова) ды «паклёпіцкія» гутаркі сярод рабочых.

Ад рабочых патрабавалі асудзіць Кукабаку... адмовіўся, і тады наступіла помста КДБ— Міхал быў ськіраваны ў Цэнтральны Інстытут імя Сербскага на псыхіятрычную экспэртызу. Там ён на адпаведны загад быў прызнаны псыхічна хворым і з дыягнозам «паранаяльная шызафрэнія» адасланы ў




*Фрагмэнт вялікага плякату, выдадзенага Міжнароднай Амністыяй у Лёндане на абарону Міхала Кукабакі. На плякаце адлюстраваньня 10 эпізодаў зь біяграфіі беларускага іншадумца.*

**«Разуменьне сваіх учынкаў — гэта й ёсьць перакананьне. Мае перакананьні выпакутаваныя й цьвярдыя. І вы самі разумееце, што чалавек, які ўсё жыцьцё праводзіць у турме за перакананьні, ня можа быць злачынцам.**

**Хачу зьвярнуць вашу ўвагу на тое, што яшчэ 16 красавіка 1977 году я прыняў цяжкую пастанову — выехаць з СССР. Я даўно прыйшоў да перакананьня, што камунізм савецкага ўзору — гэта сыстэма прымусу і ўсеагульнага разбурэньня».**

*— Міхал Кукабака ў абароннай прамове на судовым працэсе над ім у Бабруйску 20-21 чэрвеня 1979 г.*

Калі сьледзтва было ўжо закончанае, маёр Уладзімірскага КДБ Яўсееў запрапанаваў Кукабаку даць паказаньні аб «крымінальных», быццам-бы, сустрэчах з сакратаром пасольства Заходняй Нямеччыны ў Маскве Мюлерам. Узамену за гэткія паказаньні маёр Яўсееў абяцаў Кукабаку волю. Будучы крыштальна сумленным чалавекам, Кукабака ад гэтай прапановы

Сычоўскую спэцыяльную псыхбольніцу — гэта горш за якую-хаця турму. У Сычоўцы Кукабака прабыў каля трох год, пасьля чаго ён быў пераведзены ўва Ўладзімірскую абласную спэцыяльную псыхбольніцу. 10 травеня 1976 г. Кукабаку выпусьцілі на волю. Такім парадкам,ён прабыў у няволі 6 год.

*(Працяг на б. 2-й)*

## КАМПАЗЫТАР МІКОЛА РАВЕНСКІ
### (5.XII.1886-9.III.1953)

**Ад Рэдакцыі**: *5-га сьнежня 1986 г. споўнілася 100 год ад нараджэньня аднаго з выдатнейшых, а ў савецкай Беларусі аднаго з забытых кампазытараў — Міколы Равенскага. Равенскі памёр у гор. Лювэне ў Бэльгіі як палітычны эмігрант.*

*Адзначаючы гэты юбілей, зьмяшчаем ніжэй матар'ял з архіву газэты «Беларус»: аўтабіяграфію Міколы Равенскага і ягоны ўспамін аб працы над опэрай «Браніслава».*

### МОЙ ЖЫЦЬЦЯПІС

Равенскі Мікола, сын Якуба, нарадзіўся 5 сьнежня 1886 году ў маёнтку Капланцы, Чэрвенскага раёну (б. Ігуменскі павет). У гэтым маёнтку бацька ўсё сваё жыцьцё працуе садоўнікам. Маючы нізкую аплату за працу й вялікую сям'ю, ён ня мог забясьпечыць ейных мінімальных патрэбаў, а тым больш даць асьвету сваім дзецям. Гэтае цяжкое становішча вымусіла яго шукаць нейкага выхаду. Па нейкім часе гэткі выхад знайшоўся, і хутка мне — першаму зь дзяцей — прыйшлося адарвацца ад сям'і ў васьмігадовым веку.



*М. Равенскі ў Бэльгіі ў 1952 годзе.*

Першыя пачаткі граматы я атрымаў ад бацькі, а маючы сем гадоў, пачаў наведваць вясковую школу. Валодаючы вельмі добрым дзяцінным голасам, музычным слухам і здольнасьцямі, у 1895 г. паступаю ў менскі архірэйскі хор на поўнае ўтрыманьне і бясплатную навуку. Там прабыў я да 1903 г., дзе й атрымаў пачатковую музычную асьвету.

У 1903 г. атрымоўваю накіраваньне ў менскі мужчынскі манастыр у якасьці дырыгента хору, дзе набываю салідную практыку дырыгаваньня.

У 1905 г. атрымоўваю накіраваньне ў Наваградак, як дырыгент царкоўнага хору ды на працу ў школах.

Адчуваючы свае музычна-тэарэтычныя веды недастаткова моцнымі, праходжу трохгадовыя дырыгенцкія курсы ў Маскве, якія канчаю ў 1914 годзе. У гэтым-жа годзе я вымушаны пакінуць Навагардак у сувязі зь І-ай сусьветнай вайной і эвакуацыяй.

У 1915 г. як уцякач працую ў вайсковым будаўніцтве на пабудове акопаў на пасадзе загадчыка будаўнічымі складамі.

У пачатку 1919 г. пераяжджаю ў Менск на працу дырыгента царкоўнага хору пры Кацярынінскім саборы і адначасова працую ў школах у якасьці выкладчыка сьпеву й музыкі.

У 1920 г. прыймаю запросіны ад беларускага работніцкага клюбу на арганізацыю і працу беларускага хору. У ўспомненым клюбе сумесна з Ул. Галубком ставім сыстэматычныя паказы й канцэрты. Але масавы арышт у часе аднаго з канцэртаў у 1922 г. ня толькі ўсяго клюбнага камітэту (загадчыкам клюбу быў мой родны брат, які загінуў як нацдэм у 1937 г. у менскім НКВД), але й прысутную на канцэрце інтэлігенцыю (прыкладам, Лёсіка, Ільлючонка, Ляжневіча, Калевіча ды шмат іншых, пераважна чыгуначнікаў; не абмінуў арышт таксама Галубка й мяне) — цалкам спаралізаваў шпаркія крокі разьвіцьця клюбнае працы.

У 1923 г. прыймаю абавязкі хормайстра ў Менскім Гарадзкім Тэатры.

У 1921 г. прыймаю ўдзел у вялікай экспэдыцыі арганізаванай Інбелкультам на чале з мастаком Полазавам, накіраванай у Слуцак і ягоны раён.

У 1922 г. выходзіць з друку мой зборнік песьняў — народных апрацовак і собскіх твораў на вершы беларускіх паэтаў. У гэтым-жа годзе я напісаў музыку на словы Дуніна-Марцінкевіча «Залёты» (апэрэта), якая, нажаль, загінула, і кантату для хору «Курган» на словы Канстанцыі Буйлы.

У 1923 г. атрымоўваю ад Нарком Асьветы накіраваньне ў Маскву для атрыманьня вышэйшае музычнае асьветы. У 1930 г. здаю дзяржаўныя іспыты й атрымоўваю дыплём аб заканчэньні поўнага курсу навукаў у Маскоўскай кансэрваторыі. У гэтым-жа годзе ад Нарком Асьветы атрымоўваю адкліканьне й пераяжджаю на музычную працу ў Менск.

Ад 1924 да 1930 г. я — сябра-карэспандэнт Беларускае Акадэміі Навукаў.

За час навукі ў Маскоўскай кансэрваторыі маю напісаныя наступныя музычныя творы: 22 фугі для фартэпіяна, зь іх 2 двугалосыя, 5 трохгалосых, 11 чатырохгалосых і адна вась-

*(Працяг на б. 4-й)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# МІХАЛ КУКАБАКА

*(Працяг з б. 1-й)*

Па звальненьні Кукабака жыў у Бабруйску, працаваў электрыкам і гружчыкам. Двойчы яго прымусова зьмяшчалі ў псыхіятрычныя шпіталі: у лістападзе 1976 г. — за распаўсюджваньне Ўсеагульнай Дэклярацыі Правоў Чалавека і ў кастрыніку 1977 г. — за адмову зьняць са сьцяны над сваім ложкам у інтэрнаце ікону й партрэт акадэміка Андрэя Сахарава.

Яшчэ ў красавіку 1977 г. Кукабака зьвярнуўся да Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР з адмоваю ад савецкага грамадзянства і з просьбай выпусьціць яго з Савецкага Саюзу. 19 кастрычніка 1978 г. Кукабака быў ізноў арыштаваны й скіраваны ізноў на псыхіятрычную экспэртызу. Органы КДБ выяўна імкнуліся засадзіць яго яшчэ раз у псыхіятрычную турму. Але на гэты раз у паліцыйным мэханізьме нешта не спрацавала і экспэртыза прызнала Кукабаку псыхічна здаровым чалавекам, якім ён і быў на самой рэчы ўвесь час.

І вось 20 чэрвеня 1979 г. Магілеўскі абласны суд у Бабруйску разглядзеў «крымінальную справу», паводля якой Міхал Кукабака вінавацiўся ў паклё-

*(Заканчэньне на б. 3-й)*



*Міхал Кукабака (у другім радзе ў бэрэце) быў удзельнікам мітынгу, арганізаванага менскімі Гэбрэямі 9 травеня 1977 г. ля помніка ахвярам Менскага гета. З правага боку ад Кукабакі стаіць сп. Ільля Голдзін, які прыслаў газэце «Беларус» гэты здымак. Цяпер сп. Голдзін жыве ў Ізраілі. Кукабака з Голдзінам трымаюць вянок (якога ня відаць). Ускладаньне вянкоў ля помніка адбылося зь ініцыятывы менскіх Гэбрэяў і выклікала, паводля словаў сп. Голдзіна, «вельмі вялікае незадаваленьне ўладаў».*

**«Я сустракаўся зь Міхалам Кукабакам у 1977 годзе ў Менску, куды ён прыяжджаў з Бабруйску. Я мушу сказаць, што гэта адзін з сумленьнейшых людзей, якіх мне даводзілася сустракаць. Я вельмі занепакоены ягоным зьняволеньнем цяпер. Я ведаю, што ён ня пойдзе на ніякія кампрамісы, і дзеля гэтага ў турме яму будзе цяжэй як іншым».**

*— Ільля Голдзін у інтэрвію радыястанцыі «Свабода», 29 лістапада 1979.*

# КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*«Але, як прыйшла паўніня часу,*
*Бог паслаў Сына Свайго» (Гал. 4:4).*

**ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ!**

Дарагія Браты й Сёстры! Амаль ужо дзьве тысячы гадоў таму, як з волі Свае «Бог паслаў на сьвет адзінароднага Сына Свайго, каб мы жылі праз Яго» (ІЯн 4:9). Сьвяты Ангел, які зьявіўся ў сьне Язэпу сказаў: «Ня бойся прыняць Марыю, жонку сваю, бо зачатае у ёй — з Духа Сьвятога». (Мц. 1 :20).

Чуючы гэтую сьв. дабравесьць пра прыход Госпада й Збаўцы нашага Ісуса Хрыста на сьвет, мы перажываем вялікую радасьць, кожны пасвойму ў меру свайго духовага ўзбагачэньня. І тут-жа прыпамінаюцца словы сьв. ап. Паўла, які кажа: «І не тарнуйцеся да веку гэтага, але адмяніцеся аднаўленьнем думкі свае, каб пераканаліся, што за добрая й прыемная й дасканалая воля Божая» (Рым. 12:2).

Божая воля адносіцца да ўсіх нас, «Бо так палюбіў Бог сьвет, што Сына Свайго адзінароднага аддаў, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыцьцё вечнае» (Ян 3:16). Сьвяткуючы Нараджэньне Збаўцы нашага Ісуса Хрыста, Які зьявіўся нам у выглядзе Дзіцяці ў яcьлях, у пакоры й беднаце, мы абнаўяем сваю веру ў Госпада ды здабываем гэтым жыцьцё вечнае. .

Збаўца наш Ісус Хрыстос нарадзіўся ў Бэтлееме тады, як сьв. ап. Павал кажа, «Як прыйшла паўніня часу». Дзеля таго й час падзяліўся на дзьве часткі: да Хрыста і пасьля Хрыста. Да Хрыста быў сьвет упаўшых, сьвет грэху. Пасьля Хрыста настаў час уваскрасеньня й збаўленьня.

У сваёй гутарцы зь Ісусам Хрыстом Мікадым, які патаёмна хацеў даведацца пра новае вучэньне, ня мог зразумець сваіго Настаўніка ў тым, што ўсе пасьлядоўнікі Ягоныя павінны «Нарадзіцца зьверху». Дзеля гэтага Госпад сказаў: «Народжаныя зь цела ёсьць цела, а народжаныя з Духа ёсьць дух» (Ян 3:6). І сьв. ап. Павал кажа: «Бо колькі ў Хрыста ахрысьціліся, столькі ў Хрыста апрануліся» (Гал. 3:27). «Бо-ж усе вы дзеці Божыя праз веру ў Хрыста Ісуса» (Гал. 3:26).

Дзеля таго, што мы апрануты ў Ягоную славу, сьв. Нараджэньне Хрыстовае, мы павінны, дарагія мае, сьвяткаваць духова, каб мець поўную радасьць. Інакш, наша нутро будзе пустое й мы ня будзем здольныя зразумець прыход Ісуса Хрыста на сьвет. Калі кароль Давід быў рашчараваны й калі нутраная пусьціня прагла запоўненьня, ён ведаў, чаго яму недастае: «Як лань смагне да цякучых ручаёў, — сьпявае Давід у сваім псальме, — так смагне душа мая да Цябе, Божа! Душа мая прагне Бога, Бога жывога. Калі я прыйду й пакажуся перад абліччам Божым?» (Пс. 41/42:2-3). Давід ведаў, што ён патрабуе Бога, каб запоўніць сваю ўнутраную пустэчу. А сьв. ап. Ян Багаслоў піша: «Дзеля гэтага й зьявіўся Сын Божы, каб зьніштожыць учынкі д'яблавы. Кожны, хто нарадзіўся ад Бога, ня робіць грэху, бо семя Ягонае трывае у ім; і ён ня можа грашыць, бо народжаны ад Бога» (Ян 3:8-9).

Кожны веруючы ў Бога набожна й радасна ўспрыймае словы, якія сказаў пастухом ангел Госпадаў: «Ня бойцеся, бо вось я прыношу вам весьць вялікай радасьці, што будзе ўсім людзям. Бо сёньня нарадзіўся вам у месьце Давідавым Збаўца, Які ёсьць Хрыстос Госпад. І гэта знак вам: вы знойдзеце Дзіця, спавітае й лежачае ў яcьлях» (Лк. 2:10-12).

Зямная радасьць у чалавека малая, але нябесная радасьць нявымерная, трывалая,— радасьць, якая будзе гучэць праз усе вякі аж да дня, калі будуць пачутыя трубы, што абвесьцяць уваскрошаньне.

Любыя й дарагія Браты й Сёстры, абновімся-ж духам і вераю ў Госпада й Збаўцу нашага Ісуса Хрыста ды будзем напаўняць сэрцы свае любоўю да Бога, да бліжніх сваіх, да ўсяго роднага, узмацняючыся сілаю Божаю супраць зла. У гэтае сьвята Нараджэньня Хрыстовага радасьць Вашая няхай будзе вялікая, і ўсе мы разам узьнясем свае малітвы, выпрошваючы Божага дабраславеньня нашай краіне Беларусі і ўсяму нашаму Беларускаму Народу.

Вітаем усіх Вас з радасным сьвятам Нараджэньня Хрыстовага і Новым Годам. Няхай Бэтлеемская зорка ніколі не заходзіць, але асьвятляе Ваш жыцьцёвы шлях. «Слава Богу на вышынях, а на зямлі супакой у людзей добрае волі» (Лк. 2:14). Амін.

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ!

Каляды 1986 г.
Таронта, Канада

**З ласкі Божае пакорны архіепіскап МІКАЛАЙ**
**Першы Герарх Беларускай Аўтакефальнай**
**Праваслаўнай Царквы**

*(Для перадачы на Бацькаўшчыну праз радыё «Свабода»)*

# ПАМЁР АРХІЕПІСКАП ФІЛАФЕЙ

Як падаў у газэце «Новое Русское Слово» (Нью-Ёрк, 2.Х.86) Архірэйскі Сынод Расейскае Праваслаўнае Царквы за Мяжой, 24 верасьня 1986 г. памёр у Гамбургу (Зах. Нямеччына) Архіепіскап Філафей (Нарко). Нябожчык нарадзіўся ў 1905 г. на Беларусі ў в. Занаточкі Віленскае губэрні. Бацька ягоны быў спачатку настаўнікам, псаломшчыкам, а тады — дыяканам і сьвятаром у Віленскай епархіі. Маці — з дому Вялічкаў.

Духоўную асьвету Нябожчык здабыў на Варшаўскім у-це, багаслоўскі факультэт якога скончыў у 1929 годзе. У 1930-х гадох служыў у Галіцыі, быў пасьля дацэнтам Варшаўскае духоўнае сэмінарыі. У 1940 г. быў прызначаны за настаяцеля Беларускага праваслаўнага прыходу ў Варшаве, Хіратанізаваны ў сан епіскапа Слуцкага ў 1941 г., а ў 1942 г. Саборам Епіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы прызначаны за Епіскапа Магілеўскага й Мсьціслаўскага ды ўзьведзены ў сан архіепіскапа за працу над арганізацыяй БАПЦ. У 1946 г. Архіепіскап Філафей перайшоў у зарубежную Расейскую Праваслаўную Царкву. Жыў у Заходняй Нямеччыне, пайшоўшы на адпачынак з прычыны хваробы ў 1982 годзе.

# МІХАЛ КУКАБАКА

*(Заканчаньнэ з б. 2-й)*

пах на савецкі дзяржаўны й грамадзкі лад.

Тое, што адбылося тады ў Бабруйску, судовым разглядам назваць нельга — гэта была запраўдная судовая расправа. Кукабака быў пазбаўлены самага асноўнага права падсуднага — права на абарону, якое прадугледжанае ня толькі крымінальным законам, але й канстытуцыяй. Гэта з боку працэсуальнага. З боку фактычнага ў дзеяньнях Кукабакі ня было аніякага складу злачынства, г. зн. паклёпаў на савецкі дзяржаўны лад. Кукабака ніколі не рабіў ніякіх заклікаў супраць савецкае сыстэмы, ён не заклікаў нікога да супрацьзаконных дзеяньняў. Беларускі іншадумец выказваў свае неартадаксальныя пагляды аб нястачы дэмакратычных інстытуцыяў у Савецкім Саюзе. Усе свае пагляды Кукабака выказаў і перад судом. Права чалавека выказваць свае пагляды прадугледжана савецкай канстытуцыяй. Судзьдзі ўважліва слухалі выказваньні Кукабакі, яны напэўна разумелі, што ў гэтых выказваньнях няма ніякага крыміналу. Але, як ведама, у савецкай сыстэме правасудзьдзя суды падпарадкаваныя ня толькі закону, і Кукабака быў засуджаны на тры гады пазбаўленьня волі.

Для адбыцьця меры пакараньня беларускі вязень сумленьня быў скіраваны ў калёнію, разьмешчаную ў горадзе Новаполацку. Там Кукабака паддаваўся рознага роду дадатковым пакараньням і абмежаваньням, яму забаранілі ўсялякае ліставаньне, у яго адабралі ўсю, навет дазволеную літаратуру, яго шмат разоў без усякіх прычынаў зьмяшчалі ў карцар.

Тэрмін пакараньня ў Кукабакі заканчваўся 19 кастрычніка 1981 году. Але за колькі дзён да сканчэньня тэрміну ён быў раптоўна пераведзены з Наваполацку ў турму гораду Елецку, супраць яго была ўзбуджаная новая крымінальная справа, у выніку чаго беларускі рабочы-іншадумец быў ізноў засуджаны 13 жніўня 1982 г. на тры гады суровага лягернага рэжыму.

Коратка перад сканчэньнем гэтага чарговага тэрміну, у кастрычніку 1984 г., Кукабака быў ізноў абвінавачаны паводля арт. 70-га («антысавецкая агітацыя і прапаганда»), які ўжываецца супраць «асабліва небясьпечных дзяржаве злачынцаў». Няведама, на які тэрмін Кукабака быў засуджаны гэтым разам, але ведама, што арт. 70-ты прадбачыць 7 гадоў зьняволеньня ды 5 гадоў нутранога выгнаньня.

Яшчэ ў 1979 годзе савецкі акадэмік Андрэй Сахараў зьвярнуўся з заклікам да прафсаюзаў усіх краінаў сьвету і да арганізацыі «Міжнародная Амністыя» выступіць у абарону Міхала Кукабакі. Але Кукабака й дасюль пакутуе ў зьняволеньні.

**Аркадзь Рутман**

> *«Спушчаючыся да чыгуначнага пераезду, што на вуліцы Бахарова,заўважыў перасьцерагальны напіс ля шлагбауму: 'Берегись поезда!' І адразу ўспомнілася: але-ж 25 гадоў таму тут было напісана: 'Сьцеражыся цягніка!' і толькі ўнізе — расейскі пераклад. Цяпер беларуская фраза зьнікла. На сваё зьдзіваваньне мяне гэта няпрыемна зачапіла. Нечакана я ўсьведаміў сябе Беларусам. Бо-ж тут спакон веку жылі мае дзяды й прадзеды. Сама зямля гэтая складаецца з праху нязьлічоных пакаленьняў маіх суродзічаў. І я, іхны нашчадак, маю бясспрэчнае права ня толькі на гэтую зямлю, але й на сваю родную мову, на права быць Беларусам».*
>
> — *Міхал Кукабака, нарыс «Украдзеная Радзіма», Бабруйск, 25 сакавіка 1978 г.*

# ЯК ДАПАМАГЧЫ МІХАЛУ КУКАБАКУ

Арганізацыя Міжнародная Амністыя ў Лёндане, праводзячы селёта 30-га кастрычніка дэманстрацыю абароны Міхала Кукабакі, раздавала літаратуру пра беларускага іншадумца з парадаю, як яму найлепш дапамагчы.

Міжнародная Аміністыя раіць пісаць лісты савецкаму Пракурору. Як сьветчаць былыя зьняволеныя іншадумцы, якім удалося выехаць з Савецкага Саюзу, у тым ліку й Анатоль Шчаранскі, лісты з-за мяжы маюць вялікую вартасьць для вязьняў сумленьня. Лісты гэткія збольшваюць на 50% шанцы вязьня выжыць у жорсткіх умовах савецкага лягернага рэжыму. Міжнародная Амністыя раіць пісаць лісты ў ветлівым тоне паводля ніжэйпададзенага ўзору:

"I am writing to you on behalf of Mikhail Kukobaka who is serving a sentence of imprisonment in Perm Camp No. 36 after being charged under Article 70 of the RSFSR Criminal Code in October 1984. I believe that he was imprisoned for exercising his right to freedom of expression, a right guaranteed in the Soviet Constitution and proclaimed in International Covenants, such as the Helsinki Agreement, which your government has signed. Please recommend his immediate and unconditional release. I understand he has applied for permission to emigrate from the Soviet Union. I look forward to your reply."

«Пішу [пішам] Вам у справе Міхала Кукабакі, які адбывае пакараньне ў лягеры №36 у Пермі паводля артыкулу 70 крымінальнага кодэксу РСФСР. Я ўважаю [мы ўважаем], што Кукабака быў засуджаны за тое, што карыстаўся сваім правам на свабаду слова, правам, якое гарантаванае Савецкай Канстытуцыяй і абвешчанае ў міжнародных актах, гэткіх як Гэльсынскае Пагадненьне, якое падпісаў савецкі ўрад. Калі ласка, паспрыяйце безадкладнаму і поўнаму вызваленьню Міхала Кукабакі. Як мне [нам] ведама, ён падаў заяву на выезд з Савецкага Саюзу. Чакаем на Ваш адказ у гэтай справе».

Пасылаць гэткі ліст трэба на адрас:

RSFSR
10301 Moskva
Kuznetsky Most 13,
Prokuratura RSFSR,
Prokuroru,
Soviet Union

Беларускі Камітэт Абароны Вязьняў Сумленьня ў СССР зварачаецца гэтым да ўсіх суродзічаў у Вольным Сьвеце з заклікам і просьбай пасылаць гэткія лісты ў савецкую Пракуратуру, а таксама савецкаму паслу (амбасадару) у дадзенай краіне. Рэдакцыя газэты «Беларус» далучаецца да гэтага закліку.

# ПРАЦЯГЛАСЬЦЬ КАЛЯНІЯЛІЗМУ

**Russian Empire: Some aspects of Tsarist and Soviet colonial practices** (Расейская імпэрыя — некаторыя аспэкты царысцкае й савецкае каляніяльнае практыкі). Клiўленд, 1985. 187 бб.

Гэта — зборнік артыкулаў, выдадзены супольна Інстытутам Дасьледаваньня СССР і Ўсходняе Эўропы пры Унівэрсытэце імя Джона Караля ды Украінскай гістарычнай Асацыяцыяй у гор. Кліўленьдзе. Кніжку рэдагаваў знаны саветоляг праф. Міхал Пап. Усіх у зборніку 10 артыкулаў.

Найболып пра Беларусь гаворыцца ў працах праф. Рамана Шпарлюка й др. Вітаўта Кіпеля.

Праф. Шпарлюк уніклiва паказаў, як расейская гістарыяграфія імкнецца пазбавіць Украінцаў і Беларусаў іхнага апрычонага гістарычнага разьвіцьця, каб давесьці супольнае з Расейцамі паходжаньне ўкраінскага й беларускага народаў.

Др. Кіпель прасочвае ход падзеяў на Беларусі за апошнія 200 гадоў і прыходзіць да высновы, што, не зважаючы на русыфікацыю — даўную мэту цароў і камісараў — беларускі народ выстаяў у гэтым наступе на яго, выгадаваў свае нацыянальныя кадры ды ўзьняў нацыянальную самасьведамасьць.

Розныя аспэкты расейскае палітыкі на Беларусі закранаюцца і ў іншых артыкулах зборніка. Гэтак, праф. Міхал Пап піша пра Беларускую Народную Рэспубліку, разглядаючы імпэрскую палітыку цароў і бальшавікоў. Аб моўнай палітыцы царскай і савецкай улады на Беларусі гаворыцца ў артыкуле праф. Рудніцкага. Праф. Л. Вынар паказвае няўгрунтаванасьць савецкае гістарыяграфіі ў ейных цьверджаньнях пра адзінства трох усходня-славянскіх народаў: Беларусаў, Украінцаў і Расейцаў.

**Зора Кіпель**

# БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ВКЛ І Ў БССР

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ:**

«Пашырэньне грамадзка-палітычных, сацыяльна-эканамічных і культурных функцый беларускай мовы і пісьменнасьці ў Вялікім Княстве Літоўскім выяўлялася ўва ўсё большым выкарыстаньні яе ў розных сфэрах унутрыдзяржаўнай і зьнешнепалітычнай дзейнасьці. Беларуская мова выконвала функцыі дзяржаўнай, была мовай дыпляматычнай і прыватнай перапіскі, заканадаўчых дакумэнтаў, у тым ліку Статутаў ВКЛ, на ёй вяліся справаводзтва і судовы разбор у канцылярскіх установах». — *Энцыкляпэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі*, т. I, Мінск, 1984, б. 712.

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў БССР:**

«Скажэце, дзе, хто, калі навукова давёў і абгрунтаваў, што вывучэньне роднай мовы трэба пачынаць з трэцяга класу, а ня зь першага і наогул — ня зь першых год далучэньня дзіцяці да слова, да таго моўнага асяродзьдзя, зь якога яно пачынае жыцьцё?..

«Органы асьветы, заняўшы ў гэтай сытуацыі пазыцыю абыякавую і пасыўную, складаючы і рэкамэндуючы школе падручнікі нявысокай якасьці, па сутнасьці, знайшлі і сабе, і самой зьвяе апраўданьне ў той так званай тэорыі, згодна зь якой нібыта ўзроўню пісьменнасьці беларуская мова ня спрыяе, а замінае. Аднак 'вызваленьне' (ад беларускай мовы — рэд. «Б-са») пайшло нашай школе зусім не на карысьць. Наадварот, яно ўнесла і ўносіць у навучальны працэс нямала шкоды, блытаніны, сумятні, якія адмоўна адбіліся і адбіваюцца на маральным клімаце і дысцыпліне школы». — **Васіль Вітка.** *З чаго пачынаецца няпісьменнасьць.* **«Полымя», 1986, № 8, б. 195).**

---

«У Віцебску каля 40 школ, і ўсе яны з рускай мовай навучаньня. А гэта значыць, што з 40 тысяч школьнікаў гораду па жаданьні могуць... ня вывучаць родную мову абсалютна ўсе. (...)

«Як правіла, часьцей за ўсё дамагаюцца вызваленьня ад урокаў роднай мовы прадстаўнікі інтэлігенцыі і служачыя. Пераважная большасьць вывучаючых — дзеці рабочых. (...)

«Становішча жахлівае, і нават самі навучэнцы гэта ўсьведамляюць. (...) Многія дзеці (...) часьцей за ўсё знаёмяцца з творамі беларускіх пісьменьнікаў не ў арыгінале, а ў перакладзе...

«Выйсьце адно: спыніць паводку лёгкадумных адносін да першаасновы нацыянальнай культуры — роднага слова — сілаю закону». — **Ф. Сіўко, выкладчык беларускай мовы і літаратуры.** *«Прашу вызваліць...».* **«Літаратура і Мастацтва», 19.IX.1986.**

---

«...Напрыклад у Грузіі бацькі маюць права абраць для свайго сына школу з грузінскай або рускай мовай навучаньня, у Латвіі адпаведна — з латыскай ці рускай і гэтак далей. Што да Беларусі, дык тут, па меншай меры, у гарадох і гарадзкіх пасёлках, ніякага выбару, па сутнасьці, ня існуе — тут усе школы вядуць навучаньне на рускай мове. Інакш кажучы, вырашаць моўную дылему бацьком ня трэба, бо... няма беларускамоўных школ . (...)

«Ці можа выхоўвацца інтэрнацыяналізм пры адмоўным стаўленьні да мовы братняга народу?» — **Кастусь Тарасаў.** *Закон і вакол закону.* **«ЛіМ», 19.IX.86.**

---

«А Полацак? Калыска культуры беларускай! Але тут амаль ня знойдзеш на роднай мове шыльды, плякату, транспаранту. Праўда, пасьля стварэньня гісторыка-археалягічнага запаведніка становішча пачало мяняцца, але не настолькі, каб лічыць, што нешта істотнае ўжо зроблена.

«Рэзка панізіўся ўзровень моўнай культуры ў сельскіх школах. (...) Немагчыма знайсьці сцэнарыя для агітбрыгады, апісаньня народнага сьвята, рэпэртуарнага зборніка песень, вершаў, гумарэсак, інтэрмэдый, маналёгаў для канфэрансье. А колькі, дарэчы, у нас беларускіх канфэрансье? Дзіўна, беларуская эстрада зараз папулярная ў краіне, але калі пабываць на канцэрце 'Верасоў', дык кідаецца ў вочы, што беларуская песьня займае ў іх рэпэртуары далёка не галоўнае месца. Адыходзяць апошнім часам ад беларускага рэпэртуару і 'Песьняры'.» — **Навум Гальпяровіч, уласны карэспандэнт Дзяржтэлерадыё БССР.** *Калі думаць пра духоўнасьць...* **«ЛіМ», 10.X.86.**

# КАМПАЗЫТАР РАВЕНСКІ

*(Працяг з б. 1-й)*

мігалосая для выконваньня драўлянымі музычнымі інструмэнтамі (флейта, габой, клярнэт і фагот); кантата для хору, салістых і сымфанічнай аркестры на словы Янкі Купалы; харавыя творы ў малой форме, апрацоўкі беларускіх народных песьняў для хору і салёвага выкананьня, а крыху пазьней фартэпіянная прэлюдыя. Шмат якія зь іх былі надрукаваныя, у тым ліку «Ліпнёвы гімн» на словы Ул. Дубоўкі. Апрача гэтага, на словы Ул. Дубоўкі напісаны вялікі хор «О Беларусь, мая шыпшына». Твор гэты загінуў у 1942 г., узноўлены на эміграцыі.




*Частка балонкі 60-ае сьпеўніка М. Равенскага «Зборнік песень», што быў выдадзены ў Менску ў 1922 г. Беларускім Каапэрацыйна-Выдавецкім Таварыствам «Адражэньне». Тэксты песьняў у кнізе набраныя друкам, а нотная частка рукапісная, пісаная самым Равенскім. У паваенных савецкіх сьпеўніках і да цяперашняга часу цэнзура забараняе называць імя аўтара музыкі «Люблю наш край», у сьпеўніках хлусьліва пішацца — «Мэлёдыя народная».*

У 1929 г. супольна з Ул.Дубоўкам прыступаем да працы над опэрай «Браніслава».

У 1930 г. выкладаю музычна-тэарэтычныя дысцыпліны ў Менскім Беларускім Музычным Тэхнікуме, а пазьней — у новазакладзенай у Менску Беларускай Кансэрваторыі. Побач з гэтым выконваю абавязкі загадчыка навуковай часткі, не пакідаючы музычнае творчасьці.

Зь вялікіх формаў напісаная музыка для смычковага квартэту і суіта. Абодвы гэтыя творы пабудаваныя на беларускіх народных матывах. Да гэтага ліку належыць і шэраг масавых ды харавых песьняў, частка зь якіх была надрукаваная.

Амаль бесьперапыннае перасьледаваньне за нацдэмаўшчыну ды розныя няпрыемнасьці паралізавалі ў мяне імкненьне да творчае працы. Каб хоць часова ўхіліцца ад гэтага перасьледаваньня, у 1940 г. пераяжджаю ў Магілеў. У 1941 г. вяртаюся ў Менск.

23-га ліпеня 1941 г., дзень пасьля пачатку нямецка-савецкай вайны, амаль увесь Менск ахоплены морам агню; уся мая хатняя маемасьць і ўся праца ў выданьнях і рукапісах, а ў гэтым ліку і захаваныя чарнавікі опэры «Браніслава», гінуць.

У 1943 г. пераяжджаю зь Менску ў горад Чэрвень. Тут пішу музыку на царкоўныя малітвы: два нумары «Херувимская», «Милость Мира», «Верую» для хору і солё-барытона, «Отче наш», «Достойно Есть» і невялікі канцэрт «Слава в вышних Богу». Тутжа напісана зноў музыка першага й другога актаў апэрэты «Залёты».

У 1944 г. пераяжджаю ў Менск, дзе здаю два акты гэтае апэрэты ў аддзел мастацтва пры БЦР. Крыху пазьней заканчваю і трэйці акт. У гэтым-жа годзе адбываецца эміграцыя ў Нямеччыну. Увесь музычны матар'ял, які знаходзіўся ў музычным аддзеле, быў вывезены ў Нямеччыну, але першы акт мае апэрэты загінуў дзесь па дарозе і атрымаць мне яго не прыйшлося. Такім чынам і паўторная праца над апэрэтай аказалася дарэмнай.

На эміграцыі апрацаваў для хору шэраг беларускіх народных песьняў, малых харавых твораў, скаўцкіх і для жаночага ансамблю. Зь вялікіх твораў: фантазія для скрыпкі з фартэпіяна, фартэпіянная трохгалосая форт, фуга «На выгнаньні» для акардыёна.



*Магіла М. Равенскага ў Лювэне ў Бэльгіі. Помнік работы скульптара Міхася Наўмовіча (фота В. Шчэцькі).*

Узнавіў: «О Беларусь, мая шыпшына» і арыю Браніславы з опэры «Браніслава»; беларускую калыханку для жаночага квартэту і ф-піяна, «Мой родны кут» — дуэт для жаночых галасоў з ф-піяна, арыю «Ноч над Менскам» (сл. Дубоўкі), тры оды для мужчынскіх галасоў, «Слуцкія ткачыхі» для хору, солё-барытона і ф-піяна.

Распрацаваны народныя песьні: «Чаму-ж мне ня пець», «Ты чырвоная каліна», «Дарагая мне староначка», «Песьня бабыля» ды шмат іншых апрацовак, усе яны ў суправаджэньні ф-піяна.

Узноўлена з апэрэты «Залёты» песьня Сабковіча «Маю грошы, маю я». Апрацавана народная песьня салёвага выкананьня з ф-піяна «Чалавек жонку б'е-бічуе».

Сабрана 270 нумароў беларускіх народных песьняў. Прыгатаваны для друку зборнік народных беларускіх песьняў і ўласных твораў на словы беларускіх паэтаў, які складаецца з 75 нумароў.

**Мікола Равенскі**

# АБ ПРАЦЫ НАД ОПЭРАЙ «БРАНІСЛАВА»

У 1929 г. ў ліпені, будучы ў Маскве, Галадзед зрабіў прапанову Ўладзімеру Дубоўку напісаць такое лібрэта, каб опэра была арыгінальным беларускім творам, а мне — стварыць адпаведную да гэтага музыку. Прапанова гэтая была вельмі ахвотна намі прынятая і мы паабяцалі Галадзеду неадкладна ўзяцца за працу. Сродкі на гэта былі адпушчаныя, хоць і не ў вялікай суме, але на першы пачатак былі яны зусім дастатковыя.

Першым нашым заданьнем было адшукаць адпаведны зьмест лібрэта. Пасьля доўгіх пошукаў і абмяркоўваньняў сюжэту будучага лібрэта, мы ўрэшце спыніліся на Дубоўкавай паэме «Браніслава». На аснове гэтае паэмы мы дэтальна распрацавалі плян опэры, якая мелася складацца з трох актаў, устанавілі пэрсанажы ды запляновалі дэкарацыю да кажнага акту. Разыходжаньні між паэмай і лібрэта выйшлі даволі вялікія ў ходзе разьвіцьця пэрсанажа опэры, а галоўнае ў завайстрэньні драматызму й трагізму.

Ня маючы пад рукамі адпаведных народных матываў, мы пастанавілі паехаць на месяц у Магілеўшчыну для запісу патрэбнага народна-песеннага матар'ялу. Між іншага, у часе гэтае паездкі Дубоўка напісаў словы «Ліпнёвага гімну», а я музычна яго афарміў. Гэты гімн быў выдрукаваны, распаўсюджаны й выкананы ў свой час хорам у Менску, але ў хуткім часе ён быў забаронены й сканфіскаваны.

Вярнуўшыся з Магілеўшчыны ў Маскву, Дубоўка ўзяўся за працу над лібрэта. Асаблівая роля прызначалася лерніку: гэта быў самастойны нумар і служыў уступам да опэры. Сьпеў лерніка пры закрытай заслоне мусіў сканцэнтраваць і падрыхтаваць слухача да ўспрыняцьця опэры. (Сьпеў лерніка пачынаўся словамі: «Многа Бог пракаў меў, пасылаў па сьвеце іх…»).

Па некаторым часе Дубоўка прынесіць поўны тэкст для лерніка, які складаўся з 8-10 зваротак і вызначаўся сваім іншасказальным характарам, але быў цесна зьвязаны са зьместам опэры, у якой Браніслава ўцелаўляла Беларусь, а пан (імя ягонага не памятаю) — Расею.

Як пісаньне лібрэта, так і пісаньне музыкі адбывалася супольна. Такім чынам кажны такт музыкі быў для Дубоўкі настолькі ведамым, што паэт запамятаваў цэлыя мэлёдыі, якія напяваў ня толькі сабе, але й іншым. Асабліва яму падабаліся музыка лерніка, арыя Браніславы «Зарасьлі мае сьцежкі-дарожкі» ды арыя пана «Прэч псы, ня кратайце рукамі».

Уся мая музычная праца ня раз, а па колькі разоў праслухоўвалася Дубоўкам, як паасобку, кажная новая частачка, так і цэласьць. Ужо напісаныя і ім адобраныя, навет і дробныя моманты, як напрыклад кароткія рэплікі, пабудаваныя на рэчытатывах, падлягалі дыскусіі.

Да лета 1930 г. першы акт ужо быў закончаны, а да апошніх двух былі напісаныя галоўныя музычныя нумары, але яшчэ не распрацаваныя.

З момантам арышту Ўладзімера Дубоўкі нашая праца над опэрай раптоўна перарываецца, так як увесь гэты матар'ял я вымушаны быў здаць у Нарком Асьветы. Назад я яго не атрымаў — як відаць, ён быў зьнішчаны.

Характарыстыкі галоўных пэрсанажаў:

*Лернік:* Лірычны тэнар. Мэлёдыя запісана ад лерніка на Магілеўшчыне. У распрацоўцы атрымала шырокае разьвіцьцё, зьвязанае з тэкставым зьместам. Гэта ня звычайны лернік, ягоная роля — падрыхтаваць слухача да ўспрыняцьця самое опэры. Сьпеў пачынаецца спакойна плаўнай мэлёдыяй з паступовым адыходам у бок узварушаньня й хваляваньня. Паступовае нарастаньне гукавое вышыні даходзіць да кульмінацыйнага пункту, на якім нейкі час сьпеў трымаецца, ствараючы настрой глыбокага духовага ўзварушаньня, што зьвязвалася з трагічным лёсам Браніславы і дзікім азьвярэлым настроем пана.

*Браніслава:* Лірыка-драматычнае сапрана. Ейная галоўная арыя стварылася на мэлёдыі народнай песьні, запісанай на Магілеўшчыне. Выконваецца ў першым і трэйцім актах. У першым акце маладая дзяўчына Браніслава раньняй вясной у ясны цёплы дзень на прызьбе хаты сьпявала песьню «Зарасьлі мае сьцежкі-дарожкі». Тут арыя Браніславы адзначалася іншым музычным афармленьнем, з настроем спакойнага сумаваньня і дзявочых думак аб будучыні. Тым часам як гэтая-ж тэма ў арыі трэйцяга акту набывае настрой войстрага кантрасту. Моманты трагізму зьвязаныя зь лірычнай мэлёдыяй, у якой і затойваецца найглыбейшы трагізм пры адпаведнай сцэнічнай сытуацыі (момант замураваньня).

*Пан:* Магутны густы бас. Адна з галоўнейшых арыяў, ужо музычна ў сваім афармленьні закончаная, выконваецца ў трэйцім акце: «Прэч, псы, ня кратайце рукамі». Агульны характар яе — гэта найвышэйшае нутраное ўзварушаньне, зьвязанае зь непамернай азьвярэлай панскай злосьцяй і ненавісьцяй да Браніславы за згубу адзінага доўгачаканага сына. Пан адкідае ўсе прапановы прысуду ад сваіх прыбліжаных і абяцае знайсьці найжахлівейшы прысуд. Ён яго знаходзіць: загадвае сваім падуладным жывуцом замураваць Браніславу ў каменны слуп.

**Мікола Равенскі**

## ПІШЭЦЕ АСАБІСТА МІХАЛУ КУКАБАКУ!

Лёнданскі аддзел Міжнароднае Амністыі падаў думку пісаць лісты Міхалу Кукабаку на падтрыманьне ягонага духовага здароўя. Пісаць трэба на адрас:

RSFSR, 618263 Permskaya oblast
Chusovskoy raion
P. Kuchino, Uchr. VS 389/36
Kukobaka M. I.
SOVIET UNION

## ПАМЯЦІ МІКОЛЫ ЎЛАШЧЫКА

Беларуская гістарычная навука панесла цяжкую страту: на 81-м годзе жыцьця памёр гісторык Мікола Ўлашчык. Памёр далёка ад Менску ў Маскве, як некалі ў Маскве памерлі і Янка Купала і Ўладзімер Дубоўка. Слушна напісана ў нэкралёгу па Нябожчыку ў газэце «Літаратура і Мастацтва» (26.XI.86) пад заг. «Дарога ў неўміручасьць»: «у асобе Ўлашчыка беларускі народ атрымаў яшчэ аднаго волата. Сваімі гістарычнымі працамі Мікола Ўлашчык зрабіў тое, што раней для Беларусаў зрабілі клясыкі нашай літаратуры Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Максім Гарэцкі…».

ваў сваю «залатую пару»: усё на ўнівэрсытэце было беларускае — мова, навульчаныя праграмы, дасьледная праца, а галоўнае, на ўнівэрсытэце быў беларускі дух.

Мікола Ўлашчык, студэнт гістарычнага факультэту, быў глыбака ўцягнуты ў навуку, а разам з тым і ў грамадзкае жыцьцё. Ён дапамагаў арганізоўваць краязнаўчыя экспэдыцыі, школьна-навучальныя праграмы, бадай сам адзін апрацоўваў матар'ялы для Летапісу Беларускага Друку.

Плённая й шматабяцаючая праца маладога беларускага гісторыка, як і сотняў ягоных калегаў, раптоўна была абарвана ў 1930 годзе. Пагром беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў БССР, які ўвайшоў у гісторыю як разгром «нацдэмаўшчыны», перапыніў, а ў шмат чым зусім спыніў беларускую навуковую й грамадзкую працу. Сотні людзей былі арыштаваныя, і доля ня судзіла ім больш вярнуцца на Беларусь.



*Асьпіранты Беларускай Акадэміі Навукаў Мікола Ўлашчык (справа) і Яўхім Кіпель (у цэнтры) і праф. Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту Мікола Азбукін у 1930 г. напярэдадні арышту.*

Так, спадчына Міколы Ўлашчыка для беларускае гістарыяграфіі і гісторыі сапраўды піянерская, валатоўская. Валатоўская яна яшчэ й пад тым паглядам, што працаваць гісторыку даводзілася далёка ня ў спрыяльных абставінах. У нэкралёгу па Ўлашчыку не даецца некаторых важных дэталяў біяграфіі Нябожчыка, а колькі з гэтых дэталяў канечна трэба падкрэсьліць.

Мікола Ўлашчык нарадзіўся недалёка ад Менску. Вучыўся ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, якраз у тым часе, калі ўнівэрсытэт перажы-

У біяграфічнай нататцы пра Міколу Ўлашчыка ў Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі пра 1930 год сказана гэтак: «З 1930 году працаваў у РСФСР і Сярэдняй Азіі». Вось гэтак каротка, ляканічна, а калі ўдумацца дык прост

*(Працяг на б. 7-й)*

### *«ЛІПНЁВЫ ГІМН»*
**(З успамінаў Ант. Адамовіча пра М. Равенскага)**

Сэнсацыяй тады (у 1929 г.) сталася аднак ня опэра «Браніслава», яшчэ толькі пачатая, а «Ліпнёвы гімн» Равенскага на словы Дубоўкі. «Гімн» гэты быў прызначаны да сьвята «вызваленьня Беларусі ад белапалякоў», адзначанага штогоду ў БССР 11-га ліпеня. Дубоўкавы словы былі «ідэялягічна вытрыманымі» — зусім неспадзявана для яго тэю парою — знарочыстая «празаізацыя» гэтых словаў, часта ў гэтага паэты прыхватак у падобных выпадках, да тупаватых на такія рэчы партыйных «трымальнікаў ідэялёгіі» не даходзіла. А ўжо ў нотах Равенскага пазнацца на чымнебудзь, нат проста рашчытаць іх, было зусім не для іх наагул. Дык «Гімн» быў прыняты імі з радасьцяй, з надзеяй, хоць і неспадзеўнай, на пачатак нейкай «перабудовы» пракуднага паэты ды выданы разам з нотамі адмысловым дадаткам да сьвяточнага нумару аж самой газэты «Зьвязды», гэтай менскай «Праўды» (праўда, тут «падпёр» і «прапхнуў» яго наш хлопец кагадзе якраз афармлены ў сяброх «Узвышша», крытык Фэлікс Купцэвіч, тады ледзь не заступнік рэдактара, утаямнічаны ў справу Дубоўкам).

Адылі, калі «Гімн» быў аддрукаваны й масава распаўсюджаны ізь «Зьвяздою», дык зь месцаў,дзе спрабавалі выконваць яго, адразу-ж найшлі «трывожныя сыгналы»: музыка Равенскага, выявілася, ані не перадае спадзяванае радасьці «вызваленьня ад паноў», а як-бы й зусім наадварот — нейкі нячуваны цяжар пачуцьця тых, што праз гэнае «вызваленьне» пачулі сябе як ускочыўшы з агню ды ў прысак… «Гэта ня гімн перамогі, а нейкі стогн, усёдна, як рабоў на будаўніцтве піраміды эгіпецкага фараона Хеопса», — пісалі з аднаго месца, як пераказваў Купцэвіч.

Было нам тады ці мала сьмеху каля ўдаласьці гэтага «фартэлю» паэты й кампазытара, які мусілі проста пракаўтнуць, не аблізваючыся, ягоныя цэнзары, рэдактары й выдаўцы, бо не выпадала-ж уздымаць нейкі вэрхал, расьпісваючыся тым самым у собскай неабачнасьці й наагул небарачнасьці. Сьмех-жа ў нас тымі часамі ўжо рабіўся ўсё больш і больш рэдкім, а гэты хіба й стаўся зусім рэшнім — апошнім… *(«Беларуская Моладзь», Нью-Ёрк, № 16, 1962).*

## ЮБІЛЕЙ ТБШ Й БІГіК

Сёлетні 1986 год — год юбілейны для дзьвюх заслужаных для беларускай справы культурна-асьветных арганізацыяў у Заходняй Беларусі: Таварыства Беларускай Школы (ТБШ) ды Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (БІГіК).

Таварыства Беларускай Школы выводзіць свой пачатак ад арганізацыі пад назовам Беларуская Школьная Рада (часам таксама называная Цэнтральная Школьная Рада), якая была заснаваная ў 1921 г. ў Вільні ў часе г.зв. Сярэдняе Літвы (часовага дзяржаўнага твору ген. Жэлігоўскага з волі Пілсудскага, што існаваў ад кастрычніка 1920 г. да канца сакавіка 1922 г.) і ў першым пэрыядзе свайго існаваньня дзеіла толькі на Віленшчыне. У 1926 г. Беларуская Школьная Рада мяняе свой назоў на Таварыства Беларускай Школы й дастае ад польскіх адміністрацыйных уладаў дазвол пашырыць сваю дзейнасьць на ўсю Заходнюю Беларусь. Ініцыятарам утварэньня БШР-ТБШ і першым старшынём быў Браніслаў Тарашкевіч, які ў тым часе поўніў функцыю кіраўніка беларускага сэктару ў дэпартаманьце асьветы «Сярэдняе Літвы».

У «Сярэдняй Літве» (фактычна, Віленшчыне) існавала 200 беларускіх пачатковых школаў (у тым ліку 7 у горадзе Вільні), 2 гімназіі (у Вільні й Радашкавічах) ды настаўніцкая сэмінарыя ў Барунах. Віленская беларуская гімназія мела ў сваім назове «Першая», бо паводля праекту Б. Тарашкевіча мела быць заснавана ў горадзе і яшчэ колькі беларускіх гімназіяў.

У міжваенным пэрыядзе на ўсёй Заходняй Беларусі, асабліва ў гадох росквіту беларускай дзейнасьці (1926-1928), ТБШ мела 11 акруговых управаў, 500 гурткоў, больш за 250 бібліятэкчытальняў, больш за 100 народных дамоў, некалькі кнігарняў ды больш за 30.000 сяброў. Пры акруговых аддзелах і дамох існавалі свае аркестры, аматарскія драматычныя гурткі й танцавальна-харавыя ансамблі.

У 1929/1930 школьным годзе было складзена польскім школьным уладам тысячы пэтыцыяў на 412 школаў, у выніку чаго было адчынена 65 урадавых г.зв. утраквістычных, гэта значыць польска-беларускіх школаў, якія пасьля былі ператвораныя ў польскія.

У сувязі з ростам ад 1926 году Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады, ТБШ апынулася пад уплывамі Грамады, што спрычынілася да буйнага росту Таварыства, а пасьля разгрому Грамады ў 1928 г.— да масавай яго ліквідацыі разам з грамадаўскімі гурткамі.

У 1933 г. адбыўся ў Вільні суд над Галоўнай Управай ТБШ. На лаве падсудных заселі старшыня Галоўнай Управы ТБШ, стары беларускі дзеяч адвакат Фэлікс Стэцкевіч, сакратар Рыгор Шырма, выдатны школьны дзеяч С.Паўловіч, др. М.Марцінчык ды інш. І хоць пракуратуры не ўдалося давесьці сувязі ТБШ з КПЗБ і падсудных давялося адпусьціць на волю, то ўсё-ж удалося спараліжаваць дзейнасьць на віленскім грунце, а паліцыйныя органы пачалі бясспраўна граміць аддзелы й гурткі ТБШ на правінцыі.

Неўзабаве пасьля суду, зь ініцыятывы студэнта В.Тумаша, група сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ўступіла ў ТБШ, дапамагла абнавіць Галоўную Ўправу, аднавіць выдаваньне «Летапісу ТБШ», ажывіць дзейнасьць арганізацыі ў Вільні ды супольна зь іншымі арганізацыямі ўзяць удзел у кампаніі за адчыненьне беларускіх школаў.

Нажаль, аднаўленая дзейнасьць ТБШ трывала нядоўга. У пляне польскага ўраду ляжала поўная ліквідацыя беларускага арганізаванага руху, і 2 сьнежня 1936 г. ТБШ было зачыненае.

Калі Таварыства Беларускай Школы знайшлося пад уплывам Грамады, а гэтым самым узьнікла небясьпека ліквідацыі яго, дзеячы Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі (БХД) і розных правых палітычных групаў пастанавілі заснаваць новую культурна-асьветную арганізацыю. Так паўстала таварыства «Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры», статут якога 26 травеня 1926 г. быў зацьверджаны польскімі ўладамі. А каб не дубляваць дакладна дзейнасьці ТБШ, ініцыятары БІГіК надалі яму характар культурна-гаспадарчай установы, выказаны ў статуце гэткімі словамі:

«Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры заснаваны з мэтай падтрыманьня і разьвіцьця: а/ краёвага земляробства ўва ўсіх яго галінах разам з гародніцтвам, пчалярствам і земляробскімі промысламі; б/ народнага промыслу, рамясла, тэхнікі й народнага мастацтва; в/ духовай культуры, навукі й асьветы».

У ліку ініцыятараў, а пасьля сяброў БІГіК былі выдатныя дзеячы таго часу ў Зах.Беларусі: сэнатар А.Назарэўскі, паслы польскага сойму а.А.Станкевіч, А.Стэповіч, П.Каруза, а таксама архітэктар Л.Дубейкаўскі, др. Б.Грабінскі, др. Б.Туронак, а.В.Гадлеўскі, а.В.Шутовіч, інж.агр. А.Клімовіч ды інш.

Першым старшынём Галоўнай Управы БІГіК быў выбраны ведамы гандлёва-каапэратыўны дзеяч Адам Більдзюкевіч, на месца якога пасьля стаў, прыехаўшы ў Вільню па адбыцьці турэмнага пакараньня, а.Вінцук Гадлеўскі. Айцец Гадлеўскі й кіраваў Інстытутам да ліквідацыі гэтае ўстановы польскімі ўладамі ў 1937 годзе. БІГіК шырока разгарнуў працу ў раёнах з асноўным каталіцкім беларускім жыхарствам; сярод ягоных дзеячоў на правінцыі было шмат каталіцкіх сьвятароў.

За дзесяць год працы Галоўная Управа БІГіК зарганізавала тры акруговыя аддзелы, 87 гурткоў з агульным лікам больш за тысячу сяброў. Да ўдалых дасягненьняў належаць: арганізаваньне перашага ў Зах. Беларусі Вандроўнага Тэатру, які граў паважную ролю ў пашыраньні нацыянальнае сьведамасьці ў масах, правядзеньня трохмесячных каапэратыўных гандлёвых курсаў, а таксама рэгулярнае выдаваньне ад 1935 г. літаратурна-навуковага квартальніка «Калосьсе», на старонках якога друкавалі свае творы пісьменьнікі й вучоныя розных палітычных перакананьняў.

На пачатку свае дзейнасьці БІГіК здолеў адчыніць дзьве прыватныя пачатковыя школы: у Радаўцы Слонімскага павету і ў Шальцянах Браслаўскага павету; на пэтыцыі ад гурткоў Інстытуту з дамаганьнем беларускіх школаў у іншых паветах польскія ўлады адказалі адмоўна.

Калі ўжо гутарка пра асьвету, то найважнейшай падзеяй у жыцьці абедзьвюх арганізацыяў, ТБШ і БІГіК, было пакліканьне да жыцьця на супольнай нарадзе 28 лютага 1936 г. Школьнага Сакратарыяту дзеля каардынацыі акцыі змаганьня за беларускую школу. Гэтая падзея, мабыць, была галоўнай прычынай загаду польскіх дзяржаўных уладаў аб ліквідацыі абедзьвюх арганізацыяў.

**Антон Шукелайць**

## КАНЦЭРТ!

***Рада Славянскае Культурнае Спадчыны ў Амэрыцы ладзіць фэстываль народных танцаў і музыкі ў залі імя Алісы Тулі Лінкольнскага Цэнтру Мастацтваў у Мангэтэне 31 студзеня 1987 году (пачатак: а 8-й гадз. ўвечары).***

***У канцэрце возьмуць удзел беларускі танцавальны ансамбль «Васілёк» і сьпявак Багдан (Данчык) Андрусышын.***

***Цана білетаў: 10 дал. і 12 дал.***



*Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васільёк».*

## З ВОДГУКАЎ НА ПЕСЬНІ ДАНЧЫКА

Пра вельмі дадатную рэакцыю на апошнюю Данчыкаву кружэлку (ёсьць таксама й касэтка) «Я ад вас далёка» падавалася ўжо ў газэце «Беларус» (№ 330). А вось яшчэ цікавыя водгукі.

**Алесь Барскі, які часта друкуецца ў беластоцкай «Ніве»**, у нумары гэтае газэты ад 5 кастрычніка сёлета, у артыкуле пад заг. «Аб фэнамэне», піша: «Цэлымі гадзінамі можа ўжо тысячы разоў услухоўваюся я ў песьні Данчыка. (...) Думаю, што кожны чалавек, праслухаўшы песьні Данчыка, калі і ня стане лепшы, то прынамсі падумае аб чымсьці добрым, высакародным. У гэтым праяўляецца сіла ўзьдзеяньня Данчыкавай песьні. (...)

«Як-жа дзівосна, што Данчык — малады хлапец, народжаны ў ЗША, ніколі ня быўшы ў Беларусі, навучыўся і захаваў крыштальную чысьціню беларускай мовы. І якраз гэта і зьяўляецца, у маім успрыняцьці, фэнамэнальнай зьявай. Паслухайце Данчыка. Сьпявае ён цэлую гадзіну. На працягу гэтай гадзіны ніводнага фальшывага ці чужога для беларускай мовы вымаўленьня. (...)

«І яшчэ два словы аб вакальных галасавых фактарах Данчыка-сьпевака. Ня ідзе ён за дурацкімі, так агрэсыўнымі сучаснымі модамі: ня крыўляецца, ня шыпіць, не храпе, ня вішчыць, не падпіраецца дзікім музычным акампанімэнтам. Сьпявае натуральным чыстым голасам — тым чалавечым ці Божым дарам, якім надзяліў яго лёс».

**Выдаваная ў Менску маладзежная газэта «Чырвоная Зьмена»** (15.Х.86) згадала Данчыка ў артыкуле пра Сяргея Новіка-Пяюна, аўтара песьні «Зорчакі» (ведамай таксама пад заг. «На выгнаньні»: «Дні надходзяць, дні праходзяць...»). Песьня гэтая — адзін з нумароў Данчыкавага рэпэртуару. Аўтар артыкулу ў «Чырвонай Зьмене» Анатоль Сыс піша, што ён часта слухаў гэтую песьню «ў цудоўным выкананьні Багдана Андрусішына». Ніякае іншае інфармацыі аднак пра «цудоўнага» выканальніка «Зорачак» у Сысовым артыкуле не пададзена. Савецкі падцэнзурны друк усё яшчэ баіцца выказваццa шырэй пра Данчыка, пра якога гавораць ужо людзі па цэлым сьвеце.

**Я. З.**

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ

### АДЧЫНЕНЬНЕ ВЫСТАЎКІ

Выстаўка «Беларусь і ейныя кнігі» пры Монашскім Унівэрсытэцэ была фармальна адчыненая 17 лістапада. На ўрачыстасьць прыбыло каля 40 асобаў. Прадстаўнік рэктара ў-ту праф. Марван прачытаў даўжэйшы даклад пра Беларусь, ейную гісторыю й культуру. Праф. Марван адзначыў паважны ўклад мэльбурнскіх Беларусаў у арганізаваньне выстаўкі ахвяраванымі й пазычанымі экспанатамі.

На ўрачыстачцы выступіў сп. М. Скабей, ягоную прамову пра апошнія падзеі на Беларусі ў ангельскую мову пeракладаў праф. Марван. Сп. Скабей падзякаваў праф. Марвану за ягоны ўклад у арганізаваньне выстаўкі.

### СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Сьвяткаваньне, арганізаванае Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі, адбылося 23 лістапада. Па багаслужбе ў беларускай царкве ў Яравіле, адслужанай а. А.Кулакоўскім, у прыцарккоўнай залі адбылася акадэмія з мастацкай часткай. Адчыніў акадэмію сп. М. Скабей. Дзявоцкі ансамбль «Каліна» (8 харыстак у нацыянальных строях) прасьпяваў «Сьпі пад курганам гэрояў». Сп. М. Нікан прачытаў рэфэрат. З дэклямацыямі выступілі сп-ня Надзя й Аўген Грушы. Сп. Шэка вітаў ад Беларускага Вызвольнага Фронту.

Сьвяткаваньне завяршылася ўзаемапачастункам за супольнымі сталамі.

*Пярэбары тыпаграфіі на новае месца спрычыніліся да спозьненага выхаду гэтага нумару «Беларуса».*

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

### СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Аддзел Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Кліўленьдзе адзначыў 66-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня у нядзелю 16 лістапада. Па багаслужбе, якую адслужыў настаяцель а. Міхась Страпко з прат. Уладзімерам, адбылася акадэмія ў царкоўнай залі. Камандзер вэтэранаў Мікола Ягаўдзік адчыніў урачыстасьць, прывітаў прысутных, коратка падкрэсьліў значэньне Слуцкага паўстаньня ды прадставіў галоўнага дакладчыка зь Нью-Ёрку мгр. Васіля Шчэцька.

Сп. Шчэцька, прывітаўшы ўсіх ад імя Беларуска-Амэрыканскага Аб'еднаньня ў Нью-Ёрку, прачытаў рэфэрат у беларускай мове, зьместоўна расказаў пра самаабарону Беларусі перад расейска-камуністычным імпэрыялізмам, а таксама закрануў тэму дачыненьняў Беларусаў зь Літоўцамі ў гэным часе й пазьней. Беларуска-літоўскія адносіны спачатку былі добрыя; міністэрства БНР затрымалася было ў Коўне, арганізаваліся беларускія вайсковыя аддзелы, праводзілася вышкаленьне ахвіцэраў, добра стаяла беларускае выдавецтва.

Дакладчык зазначыў, што хоць канчальная мэта Слуцкага паўстаньня — незалежнасьць БНР — ня была дасягнута, збройны ўздым Случчакоў зрабіў вялікі ўплыў на далейшы ход падзеяў: абвешчаньне і ўзбуйненьне БССР, выбары беларускіх паслоў у польскі сойм, стварэньне Краёвай Абароны за нямецкай акупацыяй, узгадаваньне новага пакаленьня ўдзельнікаў беларускага нацыянальна-вызвольнага руху.

Рэфэрат у ангельскай мове прачытаў Язэп Радзюк, вучань 11-е клясы сярэдняе школы.

У прывітальным слове Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч зазначыў, што рэфэрат В.Шчэцькі быў добра падрыхтаваны, а выступ прадстаўніка маладога пакаленьня Язэпа Радзюка зрабіў прыемнае ўражаньне на прысутных. Др. Сажыч падзякаваў кіраўніцтву вэтэранаў, у тым ліку камандзеру М. Ягаўдзіку, за добрае наладжаньне ўгодкаў. Сп. Ягаўдзік падзякаваў усім за такі лічны ўдзел у сьвяткаваньні, а гасьцям з Дэтройту — за прыбыцьцё на ўрачыстасьць. Праграму закончылі адсьпяваньнем жалобнага маршу «Сьпі пад курганам гэрояў».

На памінальным абедзе, вельмі добра й багата прыгатаваным жанчынамі, вяліся далей гутаркі пра случчакоў, Бацькаўшчыну ды бягучыя грамадзкія справы.

**К.П.**

### ДЗЕНЬ УДЗЯЧНАСЬЦІ

Парафія Жыровіцкае Божае Маці сьвяткавала ў нядзелю 23 лістапада амэрыканскае сьвята Дзень Удзячнасьці (якое прыпадала на чацьвер 27 лістапада). Пасьля сьв. Літургіі а. Міхась Страпко адслужыў малебен удзячнасьці.

У царкоўнай залі адбыўся супольны абед, у часе якога старшыня парафіяльнае рады сп. С. Карніловіч вітаў, разам з удзельнікамі сьвяткаваньня, дарагога гасьця зь Беласточчыны, студэнта ўнівэрсытэту, сп. Янку Пляскевіча, які прыехаў з Польшчы на кароткі час адведаць Амэрыку. Госьць падзякаваў усім за шчырае прыняцьцё, адзначыў добрую зарганізаванасьць Беларусаў у Кліўленьдзе і сказаў, што Беларусы на Беласточчыне стараюцца трымацца разам, захоўваюць сваю культуру й традыцыі.

У канцы абеду сп. Карніловіч прачытаў ліст ад а. Серафіма Жэлезьняковіча, сьвятара царквы Сьв. Духа ў Беластоку. У лісьце апісваўся прабег будаваньня царквы Сьв. Духа й адначасна складалася шчырая падзяка Беларусам у Кліўленьдзе й індывідуальным асобам за шчодрую грашовую дапамогу ў будаўніцтве царквы.

Абед быў добра прыгатаваны, прайшоў пры запоўненай залі і ў вясёлым настроі ды трываў да вечара.

**К.П.**

## ЮБІЛЕЙ АЙЦА ДР. Р. ТАМУШАНСКАГА

3-га сьнежня 1986 г. споўнілася 20 год, як быў рукапаложаны на сьвятара а. др. Рабэрт Тамушанскі, цяперашні кіраўнік Беларускае Сэкцыі Ватыканскага радыё.

Айцец Рабэрт нарадзіўся ў Нью-Ёрку 3 ліпеня 1940 году. Бацька ягоны, Язэп — Беларус (дзяды з Гарадзеншчыны й Віленшчыны), маці — Амэрыканка мяшанага паходжаньня.

Пачатковую й сярэднюю асьвету Рабэрт Тамушанскі здабыў у Нью-Ёрку і ў Канадзе, а багаслоўскую — на Атаўскім Унівэрсытэце ў Канадзе ды ў Вышэйшай Духоўнай Школе ў Кэнігштайне ў Заходняй Нямеччыне. Быў высьвячаны на дыякана ў Рыме ў 1965 г. Уладыкам Чаславам Сіповічам, а на сьвятара — у Кэнігштайне 3 сьнежня 1966 году.

Стаўшыся сьвятаром, а. Рабэрт працаваў у лёнданскім Беларускім Рэлігійным Цэнтры і далей вучыўся на Лёнданскім У-це, дзе ў 1974 г., абараніўшы дысэртацыю на тэму «Нямецкія запазычаньні ў беларускай мове сярэднявечча», атрымаў тытул доктара філялёгіі.

Айцец др. Тамушанскі — брытанскі падданы. У часе свайго пабыту ў Лёндане ён часта выконваў сьвятарскія абавязкі сярод Украінцаў грэка-каталікаў ды ангельскіх католікаў.

У лістападзе 1974 г. а. др. Тамушанскі пачаў працу ў Беларускай Сэкцыі Ватыканскага радыё, кіраўніком Сэкцыі ён стаўся ў жніўні 1977 году.

### НОВЫЯ СЯБРЫ БАЗА

Кіраўніцтва аддзелу БАЗА ў Кліўленьдзе на працягу даўжэйшага часу старалася прыцбаць аддзелу новых сяброў з асяродзьдзя моладзі для пашырэньня працы й актыўнасьці як унутры арганізацыі, гэтак і рэпрэзантацыі навонкі. З гэтай мэтаю 5 чэрвеня 1986 г. камітэт аддзелу БАЗА зрабіў сход і запрасіў на яго старэйшых сяброў арганізацыі моладзі. Старшыня аддзелу Янка Раковіч сказаў прысутным, што каб весьці далей нутраную працу ў беларускай калёніі, а таксама дбаць пра справу рэпрэзантацыі сярод іншых нацыянальнасьцяў, каб трымаць кантакты з амэрыканскімі арганізацыямі, урадаўцамі, нам патрэбная дапамога. «Вы — добрыя кандыдаты для гэткае працы, — сказаў сп. Раковіч, зварачаючыся да маладых, — вы таксама ведаеце добра ангельскую мову». Янка Ханенка падтрымаў сказанае Раковічам і дабавіў, што шмат сяброў моладзі ў Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы ўступіла ў аддзелы БАЗА. Пасьля дыскусіяў і адказаў на пытаньні 14 асобаў далучыліся да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Новыя сябры ўзялі адразу-ж даволі актыўны ўдзел у рэпрэзантаваньні Беларусаў на сустрэчах зь іншымі нацыянальнасьцямі, амэрыканскімі ўрадаўцамі, у дэманстрацыях, выбарчых кампаніях ды ў нутраной дзейнасьці самой беларускай калёніі.

За гэтае вялікае папаўненьне аддзелу БАЗА належыць падзяка камітэту аддзелу ды асабліва наймалодшаму імігранту Янку Ханенку, які найбольш дапамог у гэтым. Новых-жа маладых сяброў трэба прывітаць і пажадаць ім добрае ўдачы й спорнай працы на карысьць беларускае грамады.

**К.П.**

## З ЖЫЦЦЯ Ў ЧЫКАГА

### ВЫСТАЎКА

18-19 кастрычніка 1986 г. адбылася міжнародная выстаўка ў Чыкага, у якой узяло ўдзел каля 60 нацыянальных групаў. Чыкагаўскі Беларускі Каардынацыйны Камітэт меў на выстаўцы свой стэнд, вельмі густоўна аформлены. На стэндзе былі выстаўленыя дзяружкі, ручнікі, падушкі ды прыгожа рэпрэзэнтаваная беларуская вышыўка. Найбольш аднак прыцягвалі ўвагу гледача лялькі ў розных беларускіх уборах. Пры стэндзе раздаваліся лістоўкі-даведкі аб Беларусі.

Вялікай папулярнасьцяй пры беларускім стоішчы карысталася паппрадуха Тэрэса Тарасэвіч, якая падрабязна інфармавала наведвальнікаў аб тэхніцы апрацоўваньня лёну, дэманструючы прыгэтым насеньне лёну, мініятурную мяльніцу, часалку і снуйку ды прадзеньне нітак на калаўроце.

Наша ткальля Кацярына Кагайтсу мела спэцыяльны стэнд, пры якім яна ўмела дэманстравала тканьне беларускіх узораў? Мэр гораду Джэральд Вашынгтон ушанаваў умельства і працу беларускіх папрадухі й ткальлі тым, што сфатаграфаваўся зь імі.

З нагоды выстаўкі былі выдадзеныя, апрацаваныя Люняй Бяленіс, закладкі да кніжак зь беларускім арнамэнтам, якія прадаваліся на выстаўцы.

Адказным за выстаўку быў Нікодым Жызьнеўскі.

### ПЕРАДКАЛЯДНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

22 лістапада была выстаўленая ў Музэі Навукі й Індустрыі беларуская ялінка, якая ўжо 9-ы год красуецца між 36-х ялінкаў іншых нацыянальнасьцяў. На думку наведвальнікаў ды працаўнікоў музэю, беларуская ялінка вырозьніваецца і сваёй арыгінальнасьцяй і прыгажосьцяй: кожны год яна папаўняецца новымі непаўторнымі ўпрыгожаньнямі, а гэта дзякуючы гэткім майстром, як Люня Бяленіс і ейная швагерка Геня Бяленіс.

28 лістапада адбылося афіцыйнае адчыненьне Каляднага Фэстывалю ў музэі. У гэты дзень беларуская папрадуха Тэрэса Тарасэвіч, апранутая ў беларускі нацыянальны касьцюм, дэманстравала прадзеньне нітак перад наведвальнікамі ялінак. Паводля адміністрацыі музэя, у дзень адчыненьня фэстывалю наведвальнікаў прайшло кала 50 тысячаў.

13 сьнежня была наладжаная пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Рамук у Музэі Навукі й Індустрыі спэцыяльная калядная праграма. Канфэрансье праграмы быў др. Эл Талівэр, які ў ангельскай мове вельмі цікава й зьмястоўна інфармаваў гледачоў аб калядных звычаях на Беларусі ды адначасна паясьняў бягучую праграму. Праграма складалася з твораў беларускіх кампазытараў, беларускіх танцаў ды беларускіх калядак. Бурныя воплескі гледачоў былі найлепшай падзякай выканаўцам ды прызнаньнем, што беларуская праграма была вельмі ўдалая.

Беларуская праграма была запісаная на відэа-істужку, сьфільмаваная таксама для тэлябачаньня і часткава паказаная на мясцовым канале.

Беларускія сувэнірныя закладкі для кніжак з народным арнамэнтам і надпісам пабеларуску «Вясёлых Калядаў і Шчасьлівага Новага Году» ды паангельску "Bielarus Christmas Tree, Museum of Science and Industry, Chicago" прадаюцца разам з сувэнірамі іншых нацыянальных групаў у сувэнірным кіёску Музэю Навукі й Індустрыі ў Чыкага.

**Др. Вітаўт Рамук**

## З ЖЫЦЦЯ Ў КАНАДЗЕ

**Угодкі нараджэньня й сьмерці Алёйзы Пашкевіч (Цёткі)**, паэткі й культурнай дзяячкі, былі адзначаныя Згуртаваньнем Беларусаў Канады ў Тароньце 28 верасьня 1986 году. Архіепіскап БАПЦ Мікалай адслужыў паніхіду за супакой душы паэткі. Др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня ЗБК, прачытала рэфэрат на тэму «Цётка як чалавек і нацыянальна-грамадзкая адзінка». У арганізацыі сьвяткаваньня ўзялі ўдзел сп. В. Касьцюкевіч, сакратар Галоўнай Управы ЗБК, і сп-ня Марыя Ганько.

**«Русыфікацыя й супраціў ёй у новай беларускай літаратуры»** — на гэткую тэму прачытаў праф. ангельскага ўнівэрсытэту др. Арнольд Макмілін даклад на канфэрэнцыі, прысьвечанай славянскаму нацыяналізму, што адбылася ў Макмастэрскім У-це ў гор. Гамільтоне 17-18 кастрычніка сёлета. Праф. Макмілін пабудаваў свой даклад на прыкладах з твораў каля 30 беларускіх пісьменьнікаў.

**«Чарнобыльская хмара прайшла над Беларусяй»** — гэтак зваўся адзін з абразоў мастачкі Івонкі Шыманец-Сурвіла, што былі паказаныя на выстаўцы ў гор. Вэляндзе, правінцыя Антарыё. Выстаўка адбылася 19-31 кастрычніка, як частка асьветнай праграмы францускамоўных школаў Антарыё. У часе трываньня выстаўкі мастачка правяла чатыры гутаркі з вучнямі й настаўнікамі, азнаямляючы іх з тэматыкай сваіх твораў, пераважна беларускай. На кожным дакладзе было больш за сто слухачоў.

**80-я ўгодкі «Нашай Нівы»** былі адзначаныя ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Тароньце 26 кастрычніка. У праграме сьвяткаваньня стараньнямі старшымі ЗБК др. Р. Жук-Грышкевіч, пры ўдзеле сп. Міхала Пашкевіча, была наладжаная насьценная выстаўка партрэтаў вядучых нашаніўцаў ды іншых выдатных постацяў гісторыі Беларусі. Другую, настольную выстаўку народных вырабаў Беласточчыны зрабіў сп. Аляксандар Шаршуновіч.

Па багаслужбе ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага й супольным абедзе адбыўся ўрачысты сход, на якім былі выслуханыя ўводнае слова пра ролю газэты «Наша Ніва» др. Раісы Жук-Грышкевіч і даклад мгр. Васіля Плескача пра нашаніўскі пэрыяд у гісторыі Беларусі.

**Пра пабудову помніка на магіле нашаніўца Алеся Гаруна** паінфармаваў удзельнікаў нашаніўскага сьвяткаваньня сп. К. Акула. Алесь Гарун пахаваны ў 1920 г. ў Кракаве. Ягоную магілу адшукаў нядаўна малады Беларус, выкладчык гісторыі на Кракаўскім Ў-це, ды заняўся справаю пабудовы помніка на магіле паэта. Збор ахвяраў на гэтую мэту праводзіць сп. Акула, які пераслаў ужо ў Кракаў паўтары тысячы даляраў. Помнік мае быць пастаўлены ў 1987 г., калі споўніцца 100-годзьдзе ад нараджэньня Алеся Гаруна.

*(Паводля «Камунікатаў [хронікі] Згуртаваньня Беларусаў Канады» за другую палову 1986 году)*

## ЛІТАРАТУРНЫ ВЕЧАР В. КАЗЬКА

У Гарадзкім Унівэрсытэце Нью-Ёрку адбыўся 18 лістапада літаратурны вечар беларускага савецкага пісьменьніка Віктара Казька. Казько прыехаў у Нью-Ёрк у складзе дэлегацыі БССР на Генэральную Асамблею ААН. Прафэсар Квінсаўскага Каледжу Томас Бэрд — славіст, які спэцыялізуецца таксама ў пытаньнях гісторыі й культуры Беларусі — адкрыў вечар і добраю беларускаю мовай прадставіў аўдыторыі Віктара Казька. На вечар разам з Казьком прыйшлі таксама прадстаўнік сталае Місіі БССР пры ААН Алег Пашкевіч і працаўнік Міністэрства замежных справаў БССР Леанід Пракопаў. Прынесьлі яны з сабою на вечар літаратуру пра Беларусь у ангельскай ды беларускай мовах.

Прафэсар Бэрд, прадстаўляючы аўдыторыі пісьменьніка Казька, згадаў выказваньне газэты «Беларус» з 1978 году, якая пісала пра Казька як пра пісьменьніка, што «вызначаецца высокай літаратурнай культурай, выдатным майстроўствам, непаўторнай арыгінальнасьцяй ды нештадзёнымі задаткамі пісьменьніцкага таленту».

У сваім выступленьні Віктар Казько асноўную ўвагу засярэдзіў на сучаснай беларускай літаратуры і гаварыў найбольш пра «ваенную» прозу.

Беларуская проза, сказаў Казько, цяпер адна з наймацнейшых у Савецкім Саюзе. Па выступленьні Казька яму задаваліся пытаньні: пра тэндэнцыі разьвіцьця беларускае літаратуры, прычыны малых тыражоў беларускіх часапісаў і кніжак, прычыны заняпаду беларускамоўных школаў у рэспубліцы.

Віктар Казько сказаў, што па гарадох рэспублікі, у тым ліку і ў Менску, назіраецца пэўны зварот Беларусаў да роднае мовы і да твораў нацыянальнае літаратуры.

Па сканчэньні фармальнае часткі вечару адбыўся абмен публікацыямі: пісьменнік падарыў некаторыя свае кніжкі, а ўзяў з сабою беларускія замежныя выданьні.

## ПРА БЕЛАРУСЬ ПАНЯМЕЦКУ

Ад 1978 году ў Заходняй Нямеччыне арганізацыя Weissruthenischer Arbeitskreis выдае двойчы на год часапіс Informationshefte «Інфармацыйныя сшыткі». Гэта — выбарачны агляд беларускага савецкага друку ды іншых крыніцаў інфармацыі. Асноўная ўвага ў аглядзе зьвернутая на эканамічныя й палітычныя падзеі ў БССР: перамены адміністрацыйна-кіраўнічага апарату, біяграфічныя дадзеныя кіраўніцтва Савецкай Беларусі. Даецца ў часапісе цімала важных статыстычных дадзеных ды пішацца пра дзейнасьць БССР на міжнароднай арэне. «Інфармацыйныя сшыткі» падаюць таксама пра важнейшыя падзеі з жыцьця беларускае эміграцыі ды час-часом даюць агляд беларускага эміграцкага друку.

Публікацыя гэтая, бясспрэчна, выконвае важную ролю, бо дае заходняму дасьледніку БССР у скандэнсаванай форме інфармацыю пра падзеі ў жыцьці БССР ды прыпамінае аб дзейнасьці палітычнае эміграцыі.

Часапіс — добрая крыніца матар'ялаў пра БССР. На яго можна падпісацца, пішучы на адрас:

Weissruthenischer Arbeitskreis
Informationshefte
Postlagernd, 7000 Stuttgart 50
Bundesrepublik Deutschland
West Germany

## МІКОЛА ЎЛАШЧЫК

*(Заканчаньне з б. 5-й)*

трагічна й жудасна несправядліва — бязь ніякае віны людзей вырывалі з карэньнем ды разганялі ў розныя часткі вялізарнае Імпэрыі. А ўдакладніць гэты пэрыяд можна хоць-бы з аднае крыніцы: Яўхім Кіпель, арыштаваны ў 1930 г. таксама як «нацдэм», пакінуў Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ўспаміны з тае пары. У гэтых ўспамінах ёсьць гэткія радкі:

«У горад Налінск нас дабралася трох: я, Мікола Азбукін і Мікола Ўлашчык. Налінск быў месцам нашай высылкі. З бліжэйшых да нас высланых нацдэмаў былі ў горадзе Глазаве Антон Адамовіч, у Уржуме Жылка, Сасіновіч і яшчэ нехта, а ў горадзе Вятцы было таксама колькі чалавек. Горад Налінск ляжыць далёка ад усіх камунікацыйных шляхоў (да бліжэйшай чыгуначнай станцыі ад Налінску было каля сотні кілёмэтраў) і выбрацца з Налінску было ня так проста, а ўзімку й наагул немагчыма.

«Высланцы ў Налінску — не навіна, сюды высылаў і царскі ўрад. Мы, высланыя Беларусы, адразу мусілі зарэгістравацца ў міліцыі ды штатыдня рапартаваць аб нашых занятках.

«Працу ў Налінску было знайсьці ня цяжка, але не на кажную працу высланым міліцыя давала дазвол. Мне было лягчэй, бо я ўладзіўся спачатку ў хэмічную лябараторыю. Азбукін пачаў прадаваць недзе на складзе, а Ўлашчык дагавата пахадзіў бяз працы. Праўда, ня гледзячы на перасьцярогі міліцыі «не общаться», мы адзін аднаму дапамагалі як маглі. Нам былі дадзеныя дазволы атрымваць пачкі з дому. Асабліва было крута з вопраткай і мы былі вельмі радыя нармальна апранууцца. Тым болей, што надыходзіла зіма.

«Каб пазьбегнуць няпрыемнасьцяў, пагутарыць, мы спатыкаліся далёка за горадам. Азбукін далёка хадзіць ня любіў, а мы зь Міколам Улашчыкам хадзілі доўга і далёка па налінскіх ваколіцах. Аднойчы Мікола выказаў мне свае пагляды на далейшыя пляны. Я яго падтрымаў і чым мог дапамог. Хутка мы зь ім рассталіся — ён выехаў, а мяне з Налінску перакінулі ў Вятку ды там у Вятцы і мне і Адамовічу прадоўжылі тэрміны высылкі.

«У Вятцы мне было сказана ў НКВД, што я ніколі не змагу вярнуцца ў БССР. Пры спатканьні зь некім з нацдэмаў мне таксама сказалі, што ніводнаму нацдэму ў Беларусь ня будзе дазволена вярнуцца, а можна будзе пражываць толькі ў Расеі».

Вось-жа зусім ясна, чаму ні Мікола Ўлашчык, ні Ўладзімер Дубоўка, ні Максім Гарэцкі, ні яшчэ тысячы беларускіх патрыётаў не змаглі вярнуцца на радзіму, а змушаныя былі, як некалі за царскай уладай паўстанцы 1863 году, навечна жыць у чужой Расеі. Савецкая ўлада пад гэтым паглядам ня розьніцца ад царскай ды недзарма пра яе людзі кажуць: «Савецкая ўлада ніколі й нічога не забывае».

**В. Зубкоўскі**

## НОВАЯ ПУБЛІКАЦЫЯ

Аўген Калубовіч выдаў успаміны «НА КРЫЖОВАЙ ДАРОЗЕ» (253 балонкі друку). Цана кніжкі — 12 даляраў, зь перасылкаю — 13 даляраў. Выпісваць можна на адрас:

E. Kachanovski
7835 Normandie Blvd., E42
Cleveland, Ohio 44130

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**
ВІТАЮЦЬ З КАЛЯДАМІ ЎСІХ СВАІХ СЯБРОЎ, ПРЫХІЛЬНІКАЎ І ПРАЦАЎНІКОЎ НА БЕЛАРУСКАЙ НІВЕ ДЫ ЖАДАЮЦЬ ІМ

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА**
**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**
вітае сваіх сяброў і ўсё беларускае грамадзтва з



**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
**Й**
**НОВЫМ 1987 ГОДАМ!**

---

**ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІХ ВЭТЭРАНАЎ У АМЭРЫЦЫ**
жадае сваім сябром і прыхільнікам



**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1987 ГОДУ!**

---

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

*Дарагія парафіяне парафіяў БАПЦ, суродчычы Беларусы й прыяцелі БАПЦ!*

*Вітаем Вас з раством Хрыстовым і Новым 1987 Годам. Усемагутны ахаваў у нас сваёю апекай ды дазволіў нам спакойна маліцца ў нашых цэрквах у адыходзячым 1986 годзе. Будзем-жа прасіць і надзеяцца на Яго ласку ў наступаючым годзе.*

*Мы радыя, што ў адыходзячым годзе мы ўтрымалі нашы царкоўныя пазыцыі; Божыя Службы адбываліся ўва ўсіх парафіях БАПЦ й патрэбы вернікаў былі поўнасьцю забясьпечаны. Каб прадаўжаць нашу царкоўную місію далей у абслугоўваньні парафіяў БАПЦ, прыдбаньні новых сьвятароў ды аказваньні дапамогі меншым парафіям, мы патрабуем дадатковае дапамогі ад Вас усіх. Мы зьвяртаемся з просьбай аб дапамозе да ўсіх нашых прыяцеляў, што паселеныя ў мясьцінах, дзе няма парафіяў БАПЦ ці беларускіх грамадзкіх асяродкаў.*

*Ветліва просім злажыць Каляднюю ахвяру на Кансысторыю БАПЦ, на адрас:*

Byelorussian Autocephalic Orthodox Church
*Consistory (Attn. Alexander Silwanowich)*
9 River Road
Highland Park, N.J. 08904
U.S.A.



*За Вашую дапамогу будзем Вам шчыра ўдзячныя.*
*Няхай ласка Божая будзе з Вамі.*

*З даручэньня Першага Гіерарха БАПЦ*
*Архіепіскапа Мікалая*
**Мітр. Прат. а. Карп Стар**

---

ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА
АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ МОЛАДЗІ
*вітаець сваіх сябровак і сяброў*
*і ўсё беларускае грамадзтва з*



КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ
Й
НОВЫМ 1987 ГОДАМ!

*Чакайце на нашых калядоўшчыкаў!*

---

*УСІМ НАШЫМ СУПРАЦОЎНІКАМ, ДАБРАДЗЕЯМ, ЧЫТАЧОМ І ПРЫХІЛЬНІКАМ, А ТАКСАМА ЎСЯМУ БЕЛАРУСКАМУ ГРАМАДЗТВУ*



*ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ*
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1987 ГОДУ!**
АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЕ
Рэдакцыйная Калегія «БЕЛАРУСА»

---

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў НЬЮ ДЖЭРЗЫ**
**жадае сваім Сябром і Прыхільнікам**
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І**
**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

# ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**



АЙЦЕЦ АЛЯКСАНДАР
АЗАРКА МАРЫЯ, ЯНКА й ІРЭНА
АЗАРКА НОНА й ЮРКА
АКУЛА НАДЗЕЯ, КАСТУСЬ, ЮРКА й АЛЬГЕРД
АНДРУСЫШЫН ЮЛЯ, ПАВАЛ, ЮРКА і ДАНЧЫК
БАЛКОЎСКІ ЗОФІЯ, АЛЯКСЕЙ і ЯНКА
БАКУНОВІЧ МІРАСЛАВА й МІТРАФАН і ДЗЕЦІ ЖОРЖ, ПЁТРА й ЛАРЫСА
БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН
БЕЛЕНІС ЛЮДОВІКА й АНТОН
ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ
ГАВЕНЧЫК ЯНКА зь СЯМ'ЁЙ
ГРАБІНСКІ БАЛЕСЛАЎ
ГРЫЦАЙ ЛІЗА й ЯКАЎ і ДЗЕЦІ
ГРЭБЕНЬ МІКОЛА зь СЯМ'ЁЙ
ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ
ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК
ДУБОВІК ЛАРЫСА й АЎГЕН з СЫНАМІ ЭРЫКАМ і АЛЕКСАМ
ДУБЯГА ЗОФІЯ, ЖЭНЯ, АЛЕГ, ЮЛЬЯН і ТАМАШ
ЖЫЗЬНЕЎСКІ АННА й НІКОДЭМ зь СЯМ'ЁЙ
ЗАМОРСКІ ВЕРА, МІКАЛАЙ, ТАНЯ й НІНА
ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА
КАЖАН ЛЮБА й ВІТАЛЬ, МАРГАРЫТА й ЮЛЬЯ зь СЕМ'ЯМІ
КАЖУРА МАРЫЯ, ПЁТРА й АЛЬГЕРД
КАЛОША КАНСТАНТЫН
КАНАРЧУК ВОЛЬГА й ЯНКА
КАРАНЕЎСКАЯ ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы
КАХАНОЎСКІ ІНА й АЎГЕН
КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА
КАЧАН ВОЛЬГА, СЫН ЮРКА й НЯВЕСТКА ІОАННА
КІПЕЛЬ МАРЫЯ
КІПЕЛЬ ЗОРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ
КОРЧЫК ЛЮБА і ЮРКА
КУШАЛЬ НАТАЛЬЛЯ
ЛАШУК АЛЯКСАНДАР
ЛІТВІНЕНКА ЕЎФРАСІНЬНЯ й ЯНКА
ЛУЖЫНСКІ НАДЗЕЯ, МІХАСЬ, ГЭЛЕНА, НЭЛЯ й ЧАСЛАЎ
МАЛЕЦКАЯ АЛІНА
МІСЮЛЬ НАДЗЯ й ЯНКА зь ДЗЕЦЬМІ
МІХАЛЮК ЛЁЛЯ й ЯНКА
МУХА КЛАЎДЗІЯ, ІГАР і ДЭНІС
МЯРЛЯК ГАННА,КАСТУСЬ і ВІНЦУСЬ
НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, ЯДЗЯ, КАРНЭЛЯ й ВІКТАР
НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і СЫН ЮРКА
НЕПЕІН НАДЗЯ й АЛЯКСАНДАР
НІКАН ЛЕНА й МІКОЛА
НОРЫК КІНУСЯ, ЛЁНЯ й ДЗЕЦІ
ОРСА ПЁТРА зь СЯМ'ЁЙ
ПАШКЕВІЧ ВАЛЯНТЫНА й МІХАЛ зь СЯМ'ЁЙ
ПЛЕСКАЧ ТАНЯ й ВАСІЛЬ
РАМУК ВЕРА, ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ
РЫЖЫ ЯДЗЯ, ЭМІГІД'ЮШ, ПЁТР і ДАРОТА
СІЛЬВАНОВІЧ ВОЛЬГА, МІХАСЬ, НІНА, АЛЯКСАНДАР, АНТОН, ЛЕНА, ІРЭНА й АНДРЭЙ
СКАБЕЙ МІКАЛАЙ
СОКАЛ ЭЛЬЗА й ЯНКА
СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і ЛЕЎ
СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА й РАІСА
СТАНКЕВІЧ ЮРКА й СЯМ'Я
СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ
СУБОТА КАЦЯРЫНА й АДОЛЬ
СУПРУН АННА й ТАМАШ
СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)
ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА й МІХАСЬ
ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН
ШУСТ ГАЛЕНА й МІКОЛА
ЧАРНЭЦКАЯ АЛЯКСАНДРА

